ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

№ 1 (студзень) 2015

## У нумары:






Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.

Вожык

Часопіс сатыры і гумару



Малюнак Сяргея ВОЛКАВА.

Каляндар 2015

Алена КАРАСЁВА, Аляксандр КАРШАКЕВІЧ

## Рэінкарнацыя

Фельетон-комікс




Працяг на 3-й вокладцы.

## «ВОЖЫК»: 2 у 1

Шаноўныя чытачы!

З першага сёлетняга нумара пачынаецца наш адмысловы праект – «Вожык»: 2 у 1. Штомесяц вы будзеце атрымліваць і ўласна часопіс, і міні-кніжку.

У гэты раз мы выпусцілі жартоўны каляндар з малюнкамі вядомых айчынных мастакоў-карыкатурыстаў ды анекдотамі. Каб скарыстацца ім, трэба адрэзаць паперу па спецыяльных лініях, абазначаных нажніцамі, а затым дзіркаколам зрабіць адтулінку. Каляндар будзе радаваць вас увесь 2015 год!

Разам з другім нумарам часопіса вы займееце мужчынска-жаночую кніжку, прымеркаваную да свят 23 лютага і 8 Сакавіка. Героі твораў Андрэя Сідарэйкі, Расціслава Бензерука, Віктара Кунцэвіча, Лёлі Багдановіч, Аляксандра Казялкова і іншых будуць шукаць каханую сучасным метадам, спяваць вясёлую гаму, круціць педалі, чхаць у шафе, дагрызаць яблычак спакусы... Нездарма ж Міхась Мірановіч засведчыў у адным са сваіх «міранізмаў» наступны факт:

*Такое ўласціва*
*З нас многім і многім,*
*Такія спрадвеку мы ўсе,*
*Мужыкі:*
*Як толькі ў жанчыны*
*Прыгожыя ногі –*
*Дык мы ў яе зараз жа*
*Просім рукі.*

Ну, а мастакі таксама не застануцца ў баку: пажартуюць і з мужчын, і з жанчын, і з іх няпростых зносінаў!..

***P. S.*** *Задума з міні-кніжкамі выспявала ў нас не адзін месяц. Падаецца, што такіх арыгінальных выпускаў не робіць ніводная рэдакцыя. Спадзяёмся, што першы блін не атрымаўся камяком. Але мы з удзячнасцю выслухаем усе вашыя заўвагі і прапановы, каб наступныя выпускі былі яшчэ больш цікавымі і вясёлымі. Да наступных сустрэч!*

**Адказы да галаваломкі «Пусці паэта ў агарод...»**

**1.** Крапіва. **2.** Абабак. **3.** Каламбур. **4.** Рабро. **5.** Орша. **6.** Алімп. **7.** Пародыя. **8.** Язык. **9.** Казёл. **10.** Лаваш. **11.** Шэдэўр. **12.** Рэвізор. **13.** Рэдзька. **14.** Афера.




## Падвяла мода

***Гродна.*** Сучаснае тэлебачанне дыктуе нам, што каб адпавядаць крытэрыям моднага чалавека, трэба прыгожа апранацца, падарожнічаць па свеце, быць у курсе ўсіх тэхнічных навінак.

На гэтым жаданні быць модным і вырашыў зарабіць мясцовы жыхар. Службовыя людзі канфіскавалі ў яго 49 мабільных тэлефонаў «iPhone 6» на агульную суму больш за 588 мільёнаў рублёў. Мужчына прывёз нелегальны тавар з Польшчы і планаваў прадаць яго ў Беларусі.

Вядзецца следства. Лепш бы людзі, каб быць моднымі, імкнуліся чытаць кніжкі.



## Пытанні без адказаў

***Магілёўская вобласць.*** Пытанні, на якія няма адказу, называюць рытарычнымі. Адна справа, калі яны ўздымаюцца ў якім-небудзь мастацкім творы, і зусім іншае, калі сутыкаешся з імі ў жыцці.

Больш за тры гады жыхары дома, які знаходзіцца ў вёсцы Брылі, скардзіліся на дзіравы дах. Звыш дзесяці гадоў цякла з перабоямі гарачая вада ў жылым доме ў аграгарадку Раманавічы. А ў Шклове ў васьміпавярховым доме цяпла хапала толькі на першыя тры паверхі...

Толькі дзякуючы гарачай лініі, якую правёў Камітэт дзяржкантролю, гэтыя і іншыя праблемы былі тэрмінова вырашаны. Няўжо кіраўнікам райжылкамгасаў, каб пачуць людзей, трэба было атрымаць вымовы, заўвагі ды пазбавіцца прэмій? Пытанне, відаць, таксама рытарычнае.



***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***




Малюнак Алега ПАПОВА.

Вожык

Часопіс сатыры і гумару



Малюнак Алега ГУЦОЛА.

**Студзень**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Аўт. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ср. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Чц. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Пт. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Сб. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ндз. | 4 | 11 | 18 | 25 | |

Віктар КУНЦЭВІЧ

# Агонь і холад



Жывы агонь тваіх вачэй
Гарыць усё ярчэй, ярчэй...
Душа ад радасці спявае:
О, Божа, цеплыня якая!
Ды полымя ўжо замнога,
Аж задымілася дарога.
Эх, адчуваю, будуць страты,
Згараць аўтамабіль і хата.
Няма пра што і гаварыць —
Сатлею сам, спакой згарыць!
Адзін ратунак мне — хутчэй
Падацца прэч з тваіх вачэй.
І вось на вуліцы ўжо восень...
Дык быў агонь ці падалося?
Нядаўна каля трох каштанаў
Сустрэў цябе неспадзявана.
У вочы помсліва зірнула —
І холадам такім дыхнула,
Што кроў спынілася, застыла.
А я падумаў: «Божа мілы,
Вось і развязка эпапеі:
Як не згарэў, дык акалею!»

*г. Магілёў.*




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.

У нас усяго два сапраўдныя святы — Новы год і пятніца.

* * *

— Што агульнага паміж мядзведзем і студэнтам?
— І адзін, і другі ўпадаюць у спячку. Толькі мядзведзь — зімой, а студэнт — летам.

* * *

— Ну, як прайшлі святы?
— Што значыць прайшлі?!

* * *

Тэлефоннае апытанне, праведзенае раніцай 1-га студзеня, дало наступныя вынікі: «2 працэнты рэспандэнтаў адказалі «так», 3 працэнты — «алё», астатнія 95 працэнтаў не змаглі адказаць».

* * *

Нашыя народныя святы: каталіцкія Каляды, Новы год, праваслаўныя Каляды, стары Новы год, Новы год па ўсходнім календары...

* * *

Новы супергерой Чалавек-студэнт! Паспявае здзейсніць за студзень столькі подзвігаў, колькі павінен быў зрабіць за верасень, кастрычнік, лістапад і снежань.

* * *

Галоўнае, запомніць, што ёлка — зялёнага колеру, а касцюм Дзеда Мароза — чырвонага. Калі бачыш наадварот, значыць, ужо досыць!

# Мама, падары мне... монстра!

Фельетон

Аднойчы ноччу ў дзіцячым пакоі ціха гутарылі мяккія цацкі — мядзведзік Пух і сабачка Чорны Носік.

— Эх, зусім нядаўна дзеці не выпускалі нас з рук, а цяпер усё часцей глядзяць на нейкіх пачвар, — уздыхнуў Пух.

— Так, — пагадзіўся Чорны Носік. — Нават не ведаю, як яны называюцца.

— А я ведаю, — раптам пачулася ў пакоі.

— Хто тут? — прашаптаў Пух.

— Баба Яга, хто ж яшчэ.

Зручна ўладкаваўшыся на кніжнай паліцы, старая сказала:

— Я на мятле шмат дзе бываю. Вось нядаўна пралятала каля аднаго дзіцячага супермаркета. Ат, думаю, зазірну. Шапку-невідзімку апранула — і ў дзверы. Кінула вокам па паліцах. Авохці мне: лялькі-вампіры! «Monster High»!

— Адкуль яны там узяліся? — развёў рукамі Пух.

— Ёсць такі амерыканскі мультсерыял, называецца «Школа монстраў», — патлумачыла Яга. — Гэта гісторыя пра школу, у якой вучацца дзеці розных пачвар: дочкі вампіра і зомбі, сын мядузы і іншыя. Лялькі спачатку спадабаліся дзецям на Захадзе, потым — у іншых краінах, а цяпер з'явіліся і ў нас.

— Страшныя, відаць? — ажно закрыў вочы лапкамі Чорны Носік.

— Анягож. Прадаюцца, дарэчы, у камплекце з чарапамі, шкілетамі, зменнымі канечнасцямі і... трунамі. Сама бачыла.

— Ой-ёй-ёй! Я іх ні за што не купляў бы!

— А бацькі для дзетак купляюць... Ды яшчэ і не такіх! Няхай Змей Гарыныч раскажа. Гэй, зялёны, выходзь, хопіць хавацца.

На кніжнай паліцы з'явіўся Змей Гарыныч.

— Праўду кажа Яга, — выдыхнуў ён. — Усё цяпер змянілася. Даўнейшыя казачныя персанажы сталі нецікавымі сучасным дзецям. Раней як было? Я, Баба Яга, Кашчэй — адмоўныя героі. У нас і тыпаж адпаведны. Васіліса, Іван-дурань — станоўчыя. Яна — прыгажуня, ён — храбры юнак... А цяпер? Дзецям падабаюцца не нашыя, славянскія, а амерыканскія персанажы: чарапашкі-ніндзя, Чалавек-Павук, Шрэк і іншыя. Знешнасць жа ў іх... хе-хе... не лепшая за маю. На працягу ўсяго мультфільма ці кінастужкі яны толькі і робяць, што змагаюцца. Праціўнікі іх, між іншым, часта нашмат прыгажэйшыя і выклікаюць большую сімпатыю.

— А гэтыя... трансформеры! Жудасць, страхоцце! — абурыўся Пух.

— Прабачце, што ўмешваюся ў размову, але не магу больш маўчаць, — пачуўся нясмелы галасок.

— Гэта яшчэ хто?! — спужалася Баба Яга.

— Я — Знайка. Жыву ў казачным Кветкавым горадзе. Чытаю шмат кніг, дапытлівы і...

— Зразумела, што не Іван-дурань, — спыніў яго на паўслове Гарыныч. — Кажы, што хацеў...

— Звярніце ўвагу: вытворцы, акрамя ўсяго, выпускаюць і жахлівыя гульні.

— Гэта якія?

— Напрыклад, настольная дэтэктыўная гульня «Cluedo», — ахвотна пачаў расказваць Знайка. — Ігракі павінны раскрыць злачынствы: хто і чым забіў мільянера Самюэля Блэка

Працяг на с. 4.

**Люты**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 2 | 9 | 16 | 23 |
| Аўт. | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| Ср. | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Чц. | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Пт. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Сб. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ндз. | 1 | 8 | 15 | 22 | |




Малюнак Андрэя СЛУЦКАГА.

Вожык Часопіс сатыры і гумару

Заканчэнне. Пачатак на с. 3.

ў яго шыкоўным асабняку. Прапануюцца падазроныя, а таксама варыянты зброі.

— А хто ў яе можа гуляць? — спытаў Чорны Носік.

— Рэкамендуецца дзецям з васьмі гадоў. Атрымліваецца, сучасныя малодшыя школьнікі павінны ўмець раскрываць злачынствы?..

— Эх, жыццё такое, — адзначыў Змей Гарыныч.

— А можа, людзі такія? — не пагадзілася Баба Яга. — Навошта дзецям разбірацца ў крымінальных справах?

— Ды яшчэ высвятляць, чым менавіта забілі чалавека, — дадаў Чорны Носік.

— Гэта нават не этычна. Калі пасля такой гульні дзіця захоча стаць следчым — гэта добра, а калі забойцам? — задаў рытарычнае пытанне Пух.

— Але, спачатку дзеці гуляюць у «Прагу хуткасці», а потым супрацоўнікі ДАІ ламаюць галаву, чаму так шмат дарожных здарэнняў. А яшчэ нават дашкалят вучаць, што трэба быць багатымі: гульні «Мільярдэр», «Мільянер», цацкі-грошы і іншыя.

— Канечне, удзяляць увагу фінансавай граматнасці нашчадкаў патрэбна. Але нядрэнна патлумачыць дзецям, што грошы бяруцца не з неба, а іх зарабляюць, — сказаў Гарыныч. — І што ў жыцці ёсць іншыя, больш значныя каштоўнасці: сям'я, сябры...

— А якія гульні вытворцы прапануюць дзяўчынкам? — пацікавілася Баба Яга.

— О, іх шмат, — адказаў Знайка. — Напрыклад: «Я стану мадэллю», «Рамантычнае спатканне», «Дзявочыя сакрэты». У іх могуць гуляць дзяўчынкі з шасці гадоў.

— І як жа тады шасцігадовым прыгажуням раяць падрыхтавацца да «Рамантычнага спаткання»?

— На скрыньцы напісана прыкладна так: «Міла, Ксенія, Наталі і Дыяна павінны паспяшацца і падрыхтавацца да спаткання, у хуткім часе тайныя прыхільнікі будуць чакаць іх! Але хто гэта будзе: ці Макс, гатовы спяваць караоке, ці Даніла, гатовы пайсці на баскетбольны матч, ці Павел, ці ўсё ж такі Андрэй? І хто будзе апрануты ў прыдатнае адзенне?» — згадаў па памяці Знайка.

— Хоць мне і 999 гадоў, але я таксама пайшла б на рамантычнае спатканне, — пакакетнічала Баба Яга. — Ды толькі Кашчэй не запрашае.

— Хопіць табе, Яга, прыхарошвацца, — сказаў Змей Гарыныч. — Тут больш важныя пытанні вырашаюцца. Я лічу, што ў шэсць гадоў пра рамантычныя спатканні думаць рана. Лепш больш увагі ўдзяляць буквару.

— І граматыцы, — дадаў Чорны Носік.

— Яшчэ ў крамах можна сустрэць забаўкі з ненармальнымі назвамі, — працягваў здзіўляць Знайка. — Напрыклад, на свае вочы бачыў цацку з назвай... «Вынас мозгу». Так і розум можна страціць!

— Але, раней дзеці збіралі фанцікі і маркі, гулялі ў «Дочкі-маці» і «Доктара Айбаліта», збіралі кубік Рубіка і канструктары. А затым вучыліся на настаўнікаў, урачоў, інжынераў...

— Ёсць прапісная ісціна, — заначыў Знайка і ўзняў палец угору. — Гульня — гэта школа маралі ў дзеянні. Праз яе дзіця разумее, «што такое добра і што такое дрэнна».

— Таму хацелася б, каб дарослыя былі надзвычай разборлівымі пры выбары цацак сваім дзецям, — уздыхнуў Чорны Носік.

— І больш звярталі ўвагі на айчынныя цацкі, а не на замежных монстраў, — заключыла Баба Яга.

За размовай нашы героі і не заўважылі, як наступіла раніца. Баба Яга, Змей Гарыныч і Знайка хуценька занялі свае месцы на старонках казачных кніг, а мядзведзік Пух і сабачка Чорны Носік далучыліся да іншых мяккіх цацак. Неўзабаве павінны былі прачнуцца іх маленькія гаспадары...

**Андрэй СІДАРЭЙКА.**

---

Люблю люты! Зарплату на тры дні менш чакаеш.

* * *

Хутчэй бы 23 лютага, а то пена для галення канчаецца і шкарпэтак цэлых зусім не засталося...

* * *

Маці пытаецца ў маленькага сына:

— Хочаш паглядзець на сястрычку, якую табе прынёс бусел?

— На сястрычку — не, а вось бусел зімой — гэта цікава!

* * *

— З Днём абаронцаў Айчыны, сынок!

— Мама, тата! Ну, чаго вы? Можа, я яшчэ паступлю!

* * *

Сёння ноччу грамадзянін пастукаў у акно і папрасіў упусціць яго ў хату.

* * *

Жонка кожны дзень скардзілася мужу: там баліць, тут баліць... Той не вытрымаў і адправіў яе ў паліклініку на кансультацыю.

Доктар уважліва агледзеў жанчыну і параіў апранацца цяплей і больш бываць на свежым паветры.

Калі яна вярнулася дамоў, муж запытаўся:

— Што сказаў доктар?

— Зімой насіць норкавае футра, а летам адпачываць на моры.

## БЫВАЕ І ТАК...

Купіў гармонік – іграе на гітары.

Заварыў гарбату – п'е каву.

Кахаў адну – ажаніўся з другой.

Пасеяў буракі – выкапаў бульбу.

Хадзіў у лазню – мыўся дома.

Сустрэў кума – вечар правёў з кумою.

Глядзеў тэлевізар – слухаў радыё.

**Заўважыў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*




Адаму Бог з яго рабра
Стварыў жанчыну – для дабра,
Для мілавання, для дзяцей,
Для лепшых спраўджвання надзей.
Магла жанчына падказаць,
Калі касіць, калі араць,
Як выгадней прадаць, купіць...
Ну, як такую не любіць?
Усім жанкам было вядома:
Гадуй дзяцей, трымайся дома.
Ды сёння час ужо не той.
Глянь: прыгажуні рвуцца ў бой,
І ўсё часцей без дай прычыны
Пакпіць ім хочацца з мужчыны.
Маўляў, не так арэ ды косіць
І ноччу дрэнна жонку просіць.
Не тое есць, не тое п'е...
Не-не ды мужа папікне!
Нібы гадзюкі, моцна джгаюць.
Без нас і дзетак нараджаюць!
Каб лёс мужчынскі знаў Адам,
Сказаў бы: «Я рабро не дам!»

**Уладзімір ЛАБКО,**
*г. Слонім.*




Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.

Вожык
Часопіс сатыры і гумару

**Сакавік**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Аўт. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ср. | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Чц. | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Пт. | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Сб. | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Ндз. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |




11 лютага 2015 года ў Нацыянальным выставачным цэнтры «БелЭкспа» адкрыецца XXII Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш. Ганаровым госцем на ёй будзе Кітай.

«Вожык» з усмешкаю прадстаўляе чытачам некаторыя малюнкі кітайскіх майстроў алоўка і пэндзля.



Хун ХАЙ



Дачуань СЯ



Фэн ГУЙБО



Дачуань СЯ

---

8 Сакавіка любяць жанчыны і прадаўшчыцы кветак. Але больш за іх святу рады жанчыны-прадаўшчыцы кветак.

* * *

Муж вырашыў зрабіць сюрпрыз жонцы на 8 Сакавіка:

– Дарагая, гэты суп я спёк сам.

* * *

У газетнай рубрыцы «Пытанні чытачоў»: «Я перажыў 8 Сакавіка. Ці належаць мне якія-небудзь ільготы і кампенсацыі?»

* * *

Жаночыя святы: 8 Сакавіка; дзень нараджэння сяброўкі (таму што яна на тры гады старэйшая); дзень, калі зламаліся вагі; антэна перастала лавіць канал «Спорт».

* * *

Калі адзначаць Новы год з адпаведным размахам, то неўзабаве пасля яго надыходзіць вясна.

* * *

Вясна ў гэтым годзе будзе вельмі цёплая. Галоўнае, не прапусціць гэты дзень.

**Мікалай ГЛЕБ**

# Разявакі

*Іранеска*



Сёння з нас усіх збіралі ў капялюш па пяцьдзясят тысяч рублёў, бо разява Тарэза Скрабец згубіла на рынку кашалёк з зарплатай.

— Яна калі-небудзь шынььён з галавы згубіць, — бурчэў бухгалтар Курэц. — Будзем тады скідвацца па пяцьдзясят валасін.

— Годзе ўжо вам, Пятро Кірылавіч, — прысароміў яго наш прафорг Дзяніс Лыкаў. — Не пакідаць жа жанчыну ў бядзе!

Апошнім здаў грошы планавік Алесь Дзяркач. На ягоным твары блукала загадкавая ўсмешка.

На наступны дзень ён спазніўся на працу. З'явіўся толькі на пачатку дзясятай гадзіны, разгублена спыніўся ў дзвярах і, ні да каго не звяртаючыся, сказаў:

— Такая справа, браткі... Ехаў я зараз у перапоўненым тралейбусе, палез у кішэню па кашалёк, а яго няма... Пяцьсот тысяч было, не лічачы дробязі!

— Не пакідаць жа чалавека ў бядзе, — у голасе Лыкава чулася шчырае спачуванне. — Складзёмся, калегі, і яму ў капялюш.

Назаўтра спазніўся на службу бухгалтар Пятро Курэц.

— Вы мне, вядома, не паверыце... — нясмела пачаў ён.

— Абакралі! — здагадаўся я.

— Так! — чамусьці ўзрадаваўся Курэц. — Чатырыста пяцьдзясят тысяч, як і не было.

— Калегі, дастаем кашалькі! — скамандаваў прафорг.

Калі на наступны дзень пазней, чым звычайна, на працу прыйшоў інжынер па камплектацыі Святаслаў Курачкін, мы ўсё зразумелі па ягоным журботным твары.

— Колькі? — запыталіся хорам.

— Ды... Было каля мільёна, — выціснуў той, ледзь не плачучы.

— Не можа такога быць, людцы! — не вытрымаў Лыкаў. — Я вось думаю, што не болей, чым васемсот тысяч.

— Можа, і так, — адразу пагадзіўся Курачкін. — З гора крыху перабольшыў...

Далей усё было проста. Кожны чарговы пацярпелы без лішніх слоў клаў капялюш на стол праформа і спакойна ішоў на працоўнае месца. Некаторыя толькі папярэджвалі, што хочуць атрымаць дапамогу дробяззю, або, наадварот, буйнымі паперкамі.

— Можна, я згублю раней за цябе? — папрасіўся аднойчы Лыкаў. — Разумееш, мэблевы гарнітур куплю.

— Яшчэ чаго! — абурыўся я. — Губляй у парадку чаргі. Я сам імпартны пінжак у краме нагледзеў, акурат паловы мільёна не хапае.

Згроб у жменю грошы з капелюша і хуценька іх падлічыў.

— А чаму тут толькі чатырыста сорак сем тысяч? — мне цяжка было схаваць абурэнне.

— Тарэза Скрабец не ўнесла, — растлумачылі калегі. — Няма ў яе сёння. Зноў, разява, кашалёк згубіла на рынку...

*Ляхавіцкі раён,*
*в. Падлессе.*

Вожык Часопіс сатыры і гумару



Малюнак Андрэя ПУЧКАНЁВА.

**Красавік**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Аўт. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ср. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Чц. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Пт. | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Сб. | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ндз. | 5 | 12 | 19 | 26 | |





Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Валянціны ГАРБАЧУК.




Са мной вучыўся ў адной школе
Хлапчук, якога звалі Коля.
Быў да вучобы вельмі здатны,
Яшчэ ў футбол гуляў выдатна.
Але гадоў у чатырнаццаць
Пачаў патроху ён мяняцца.
І, каб старэйшым выглядаць,
Надумаўся курыць пачаць.
Ды так прывык, што за парог
Без цыгарэт ступіць не мог.
За дзень выкурваў пачкі два
(Як не балела галава?).
Са спортам хутка развітаўся,
Бо ад нагрузкі задыхаўся...
Зноў давялося мне сустрэць
Яго гадоў праз пяць ці шэсць:
Схуднелы, кашаль так даймае,
Ды цыгарэту ўсё ж трымае.
Сябры казалі, і не раз:
– Кідаць курыць табе ўжо час!
Ды ім заўжды адказваў Коля:
– Курыць не кіну я ніколі.
Да цыгарэт прывык з маленства,
Без іх бярэ мяне шаленства.
Кідацца на людзей гатовы,
Магу сказаць благія словы.
Без цыгарэт і дзень не мілы,
Як пакуру – прыбудзе сілы.
Не верыў Коля, што не сілу
Тытунь дае – вядзе ў магілу.

* * *

Шкада.
Каб гэтая бяда
Не сталася з табой ніколі –
Не паўтарай памылак Колі.

**Святлана АГЕЯВЕЦ,**
*Пружанскі раён,*
*г. п. Ружаны.*




Днямі цэлымі ў люстэрку –
Справа, злева, круць ды верць –
Прыхарошваецца Верка,
Выбірае, што надзець.

Бацька не стрываў аднойчы:
– Хопіць стрэлкі маляваць!
Век сядзець на шыі хочаш?
Трэба зяця адшукаць!

Не дарма прайшла, дарэчы,
Бацькава навука:
Ён дачку цяпер гадуе,
Зяця ды унука.




**Эра СТАВЕР,**
*г. Салігорск.*

Калі зіма жартуе да красавіка, то чаму лета не помсціць да снежня?

* * *

Красавік – гэта калі на адным прыпынку стаіць жанчына ў футры і хлопец у майцы.

* * *

Доўгая вясна не прайшла бясследна. Сёння высветлілася, што кот адгукаецца на мянушку «Холадна».

* * *

Красавік. Сусед выкінуў ёлку... Слабак!



* * *

Сяргей Маўродзі абвясціў 1 красавіка святам укладчыкаў «МММ».

* * *

Так, вясна гэтай зімой атрымалася на славу...



* * *

Жонка: – Дзе грошы?
Муж: – Укралі.
Жонка: – У якой яшчэ кралі?






Малюнак
Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма МІхася СЛІВЫ.

## ЗАПРАШАЕМ НА ПРАЦУ!

*Патрабуюцца добрыя працаўнікі.*
*Заробак вельмі вялікі.*
*Запрашаем на гутарку.*
*(З аб'явы).*

Хто ж патрэбны: лекар, пекар,
Нейкі там універсал?
Пэўна, хтосьці з прайдзісветаў
Гэткую аб'яву даў.

Хто патрэбны ім, цікава?
Немагчыма зразумець...
Мала толку з той аб'явы,
Лепей нават не глядзець.

**Мікалай МАКАРЭЎСКІ,**
*г. Мінск.*

## ВЯСЁЛЫ СЛОЎНІК

БАНКАМАТ — сварка ў банку.
ВЕРХАВОДКА — жанчына-начальнік.
ВЫХАВАНКА — «заначка».
КАРАГОД — гадавое турэмнае зняволенне.
КАРАКУМЫ — надаедлівыя кумы.
МАТЫВАВАЦЬ — абляаць матам.
ПАПАДДЗЯ — жанчына-снайпер.
ПАРАВОЗ — вясельная машына з маладымі.
ПРАКУРОР — заядлы курыльшчык.
ЭКСТАЗ — стары тазік.

**Соф'я КУСЯНКОВА,**
*Рагачоўскі раён,*
*в. Лучын.*

## СТАРОЕ НА НОВЫ ЛАД

* **Чужымі рукамі добра жар заграбаць. А сваімі — грошы лічыць.**

* І месца красіць чалавека, калі яно даходнае.

* **Калі не наеўся, дык і не наліжашся. Хіба што абліжашся.**

* Пасмяяўся лысы з пляшывага. А з іх абодвух — кучаравы.

* **І сцены маюць вушы, калі ў іх жывуць «жучкі».**

* Беражонага Бог беражэ. Магната — яшчэ і ахоўнікі.

**Перайначыў Васіль РАГАЎЦОЎ,**
*г. Магілёў.*

Вожык Часопіс сатыры і гумару




Малюнак Аляксандра ШМІДТА.

**Май**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Аўт. | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ср. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Чц. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Пт. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Сб. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ндз. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |

Усяго патроха!



Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.



Малюнак Пятра КОЗІЧА.



— То дзяржкантроль, то падатковая, то пажарныя! Адно выратаванне — Багамы...

Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Валянціны ГАРБАЧУК.



Малюнак Алега ПАПОВА.

— Звяртаюся да таго, хто знайшоў кашалёк з дзвюма тысячамі долараў і праязным на май. Прашу вярнуць хаця б грошы!

* * *

— Ненавіджу красавік! На вуліцы ўжо цёпла, а батарэі яшчэ грэюць!

— Ненавіджу май! На вуліцы яшчэ холадна, а батарэі ўжо не грэюць!

* * *

Цёплы пачатак мая — гэта яшчэ не падстава, каб хаваць у шафу зімовую вопратку...

* * *

На майскія святы насельніцтва краіны падзялілася на два лагеры. Адзін саджаў бульбу, другі — печань.

* * *

Супрацоўнік ДАІ спыняе аўтамабіль, які перавысіў хуткасць, і пытаецца ў вадзіцеля:

— Куды вы так спяшаецеся?

— Дадому. Мы сустракалі Новы год з сябрамі, і я крыху затрымаўся. Жонка хвалюецца.

— Але ж зараз май на двары!

— Таму і спяшаюся!




Як кажуць дасведчаныя асобы: «Дрэвы точыць шашаль, а людзей — кашаль».

* * *

Калі не будзеш хадзіць да родзічаў на вяселлі і хрэсьбіны, яны не прыйдуць на тваё пахаванне.

* * *

За вячэраю муж хваліць жонку:

— Ты ў мяне такая малайчына! Прыйшоў дадому і бачу: усюды чысціня, посуд памыты, абед прыгатаваны і, галоўнае, цябе няма!..

* * *

Калі ў цябе шмат грошай, то многае навокал здаецца танным...

**Даслаў Аляксей БУЦЬКО,**
*г. Гродна.*

## Распаўсюджанае прозвішча

— Як вашае прозвішча?
— Кафтанаў.
— Даволі рэдкае.
— Чаму ж? У нашай вёсцы гэтае прозвішча распаўсюджанае: і я — Кафтанаў, і жонка — Кафтанава, і трое маіх дзяцей — таксама Кафтанавы. А ў хуткім часе і яшчэ прыбавіцца...



## Камплімент

Мужчына сустракае незнаёмую маладую жанчыну і радасна кажа:

— А я вас пазнаў! Вашае фота нядаўна было надрукавана ў газеце. Але там вы выглядалі значна прыгажэйшай.

## У кулінарыі

— У вас катлеты свежыя?
— Катлеты ўчарашнія, а вось цэны — свежыя!




## Прычына для непакою



— Чаго ты ў люстэрка так пільна ўглядаешся? — пытаецца жонка ў мужа.
— Гляджу, ці не надта пастарэў, — адказвае той.
— А што здарылася?
— Ды сёння ў аўтобусе дзве дзяўчыны прапанавалі мне месца...

**Пачуў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

Вожык Часопіс сатыры і гумару




Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.

## Чэрвень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Аўт. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ср. | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Чц. | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Пт. | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Сб. | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Ндз. | 7 | 14 | 21 | 28 | |



**Васіль СЕМЯНЮК**

# Ганарар

Быль



Ёсць у мяне добры знаёмы Лявон, які часта друкуецца ў газетах ды часопісах. Гледзячы на яго, і я вырашыў паспрабаваць свае літаратурныя здольнасці. Пачаў з гумарэскі. Напісаў ажно дваццаць старонак і даў пачытаць Лявону. Той сказаў, што няблага, толькі трэба скараціць. Тады можна аддаць у раёнку ды яшчэ і ганарар атрымаць.

З дваццаці старонак я пакінуў дзесяць і паехаў у рэдакцыю. Галоўны рэдактар – ветлівая і прыгожая жанчына – сустрэла мяне цёпла, пачаставала гарбатай з цукеркамі. Пахваліла маю пісаніну, але таксама параіла скараціць. Засталося пяць старонак.

– А ганарар будзе? – асцярожна пацікавіўся ў рэдактара.

– Вядома, – усміхнулася тая.

– Дык давайце! – не ўтрымаўся я.

Яна патлумачыла, што ганарар будзе толькі праз месяц, калі надрукуюць матэрыял.

– Праз месяц дык праз месяц, – пагадзіўся я. – Пачакаю.

Увесь гэты час не знаходзіў сабе месца. Нарэшце патэлефанавалі з рэдакцыі і паведамілі, што ў наступным нумары раёнкі выйдзе мая гумарэска.

Я ўзрадаваўся, пазычыў у жонкі грошай на дарогу ў адзін бок (паабяцаў аддаць з ганарару) і паехаў на маршрутцы ў райцэнтр.

У рэдакцыі мяне павіншавалі з першай публікацыяй, але тут жа засмуцілі: ганарар можна будзе атрымаць толькі заўтра, бо захварэла бухгалтар.

– Заўтра дык заўтра, – пагадзіўся я. – Пачакаю.

Галоўны рэдактар ветліва зазначыла, што газета з маім творам ужо прадаецца ў кіёсках. Стрымгалоў паляцеў набываць.

На апошняй старонцы, у куточку, дробным шрыфтам сапраўды была надрукавана гумарэска. Праўда, мне падалося, што яе яшчэ больш скарацілі.

«Сам вінаваты, – дакараў я сябе, – не трэба было паддавацца. Ну, нічога, у наступны раз усе дваццаць старонак аддам!»

Але гэтая акалічнасць не магла азмрочыць маю радасць. Я ўяўляў сабе, як вярнуся дадому, як пакажу газету і як мяне пачнуць хваліць і Лявон, і аднавяскоўцы, і нават жонка.

І тут жа засмуціўся: мне ж не хопіць грошай на дарогу. Ганарар, на які так разлічваў, я не атрымаў!

«Нічога, – супакоіў сябе. – Вазьму білет на рэшту, што засталася, а астатні шлях пешшу прайду».

Так і зрабіў. Сышоў на прыпынку, сеў на лавачку і пачаў перачытваць сваю гумарэску. Відаць, стаміўся, бо не заўважыў, як задрамаў. І прыснілася мне, быццам атрымаў вялікі гаранар і не ведаю, што з ім рабіць...

---

Тры прычыны, каб стаць настаўнікам: чэрвень, ліпень, жнівень.

* * *

Чэрвень. Канікулы. Сёння вечарам жонка і дзеці едуць на дачу! Пачынаецца шчаслівае, але галоднае лета...



* * *

Адны адпачываюць летам, іншыя – там, дзе лета.

* * *

Чэрвень – месяц, калі ў аўтобусе не адчыняецца акно, якое нельга было зачыніць у снежні.



* * *

Жадаю ўсім, каб гэтым летам
Было вам не да інтэрнэту!

* * *

Надыходзіць лета!
Хай жыве дыета!



– Дахаты нясі! – пачуў я строгі жончын голас.

А скрозь сон адчуў, што нехта кранае мяне за плячо:

– Грамадзянін, вашы дакументы!

Расплюшчваю вочы – перада мной стаіць міліцыянер.

– Што вы тут робіце?

Я паспрабаваў растлумачыць, што ездзіў атрымліваць ганарар, але ад нечаканасці змог толькі прамямліць: «Гана... Гана...»

– Ганна? – здзівіўся прадстаўнік правапарадку і тут жа па рацыі звязаўся з падмогай. – Юрась, я – шосты, я – шосты, падганяй калёсы, чалавека на прыпынку затрымаў. Мала таго, што без дакументаў, дык яшчэ і нетрадыцыйнай арыентацыі: Ганнай сябе называе.

Па дарозе ў прыёмнае аддзяленне я рыхтаваўся да самага горшага.

– А куды мы едзем?

– Хутка даведаешся, пачакай.

– Хутка дык хутка, – пагадзіўся я. – Пачакаю.

У райаддзеле мяне адразу павялі да начальніка міліцыі. Я чэсна расказаў яму гісторыю сваёй вандроўкі па ганарар. Ён уважліва паглядзеў на мяне і запытаў:

– А гэта не ты колькі дзён таму спяваў малдаўскую песню на канцэрце, прысвечаным Дню міліцыі?

– Я!

– Так бы адразу і сказаў, а то Ганна, Ганна... – міліцыянер, што мяне затрымаў, крыху сумеўся.

Усе разам мы доўга рагаталі. Потым начальнік загадаў сяржанту падвезці мяне дадому. Ад радасці я падарыў яму тую самую газету з гумарэскай. І – па ягонай просьбе – нават пакінуў першы ў жыцці аўтограф.

Жонка таксама доўга смяялася з маіх прыгод. А з нагоды творчага поспеху прыгатавала смачных варэнікаў з сырам. Седзячы дома ў цяпле, сытна пад'еўшы, я зноў узгадаў Лявона і па-добраму пазайздросціў яму.

Ганарар я ўсё ж атрымаў. Якраз хапіла доўг вярнуць.

Цяпер збіраюся напісаць яшчэ адну гумарэску і адправіць у адзін рэспубліканскі часопіс. Цікава, ці пазычыць мне жонка грошай на дарогу?..



*Дзяржынскі раён,*
*в. Баравікі.*




Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.



**Ліпень**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Аўт. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ср. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Чц. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Пт. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Сб. | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ндз. | 5 | 12 | 19 | 26 | |

## Думкі ўголас

Законы, якія не працуюць, прыдумалі дармаеды.

Захад галосіць па тых, каму на Русі жыць добра.

Кароль — прыдворным з наіўнай прастатой: «А народ жа — голы!»

Ён памяняў свае высакародныя думкі на высакародны метал.

І барабаншчыкі вылятаюць у трубу.

Лірычныя адступленні прывялі пісьменніка ў творчы тупік.

Вакол хабарнікі: зло і тое бяруць.




Малюнак Руслана БОГУША.




Малюнак Андрэя СКРЫННІКА.

Ляжу, сумую, узяў кнігу, пачаў чытаць... Як добра было, калі я сумаваў!

І без голасу і слыху можна выканаць лебядзіную песню.

За напісанае паміж радкоў атрымаў паміж вачэй.

Ведаеш заўсёды больш, чым разумееш.

Лепшая пара жыцця заўсёды альбо наперадзе, альбо ззаду.

Цікава, хаця б адзін дырэктар прапанаваў скарачэнне штату намеснікаў?

Аўтарытэт хутка рос, але так і не дарос...

Злосці не трымаў, усё аддаваў людзям.

**Анатоль БАРЫСАГЛЕБСКІ,**
*г. Гомель.*

---

Як сведчыць статыстыка за ліпень, самым папулярным месцам адпачынку аднагалосна быў абраны халадзільнік.

* * *

Бацька раіць сыну:
— Не жаніся ў ліпені, сынок, толькі ў жніўні.
— А якая розніца, тата?
— Што б там ні казалі — усё ж выйграеш месяц.



* * *

Да дырэктара заходзіць начальнік аддзела:
— Пётр Іванавіч, ну, калі я ўжо атрымаю адпачынак?
— Адпачынак, адпачынак... Ты і так усё лета прасядзеў каля адчыненага акна.



* * *

— Ох, дарагая, калі ўжо прыйдзе лета?
— Сапраўднае лета будзе тады, калі ты на яго заробіш.

* * *

Гэтым летам вырашыў заняцца нерухомасцю. Ляжу і не рухаюся.

* * *

Гэта зімой яны Дзед Мароз і Снягурка. А ўлетку — фатограф і малпачка!








**Анатоль ЗЭКАЎ**

### Зайка на зарадцы



Выбягае Зайка ранкам
На зарадку на палянку.
Бегае, куляецца,
Снегам націраецца,
Жвава прысядае,
Лапкамі махае.
Скокне ўперад,
Скокне ўбок...
Не заўважыў толькі б Воўк!

### Як?



«Дождж ідзе.
Бяжыць сцяжынка.
Уцякай хутчэй, Алінка!»

Кніжку прачытаў Сярожа
І спрабуе ўсё ўявіць,
Як сцяжынка бегчы можа
І як можа дождж хадзіць...

### Бананавая задачка



У Рамана — дваццаць два бананы.
Напалову меней — у Святланы.
Колькі ж усяго бананаў
У Святланы
І Рамана?



*РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» прапануе*

## «Вожык вёз сараканожак»

*У новай кнізе для дзяцей Анатоля Зэкава шмат пазнавальнага, павучальнага і, вядома ж, займальнага. Героі вершаў — звяры, птушкі, расліны, усё, што акружае маленькіх чытачоў у паўсядзённым жыцці. На рахунку пісьменніка сем кніг для дзяцей. «Вось мая — восьмая», — каламбурыць ён пра новае выданне. Творы з яго таксама чытаюцца весела і лёгка.*

***P. S.*** *Кнігу можна набыць у аддзеле рэалізацыі альбо атрымаць па пошце. Тэлефоны для даведак: 8(017) 288-12-94, 284-79-85.*

### Бегемот



Аніколі бегемот
Не паклаў
На лёд
Жывот,
Бо жывуць
Там
Бегемоты,
Дзе няма ніколі лёду.

### Хітруны





Хітры коцік Цішка
Кліча з норкі мышку.
Кліча,
А яе няма.
Мышка хітрая сама.

Вожык Часопіс сатыры і гумару



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Жнівень**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Аўт. | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ср. | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Чц. | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Пт. | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Сб. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Ндз. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

## Самалёт-лабірынт






– Мама, а я кашу зварыла!
– І з чаго ж, дачушка?
– З пельменяў!

* * *

Ляціць пугач і крычыць:
– Угу, угу, угу!
Раптам стукнуўся аб слуп:
– Ого!

## Знайдзіце цені.




Малюнкі-загадкі Андрэя СКРЫННІКА.

Яніна ЖАБКО

## САРОКА-САКАТУХА

У сарокі на хвасце
Навіна штодня расце.
Усё ведае сарока,
Заўважае пільным вокам,
Бо лятае там і тут,
У яе паўсюль маршрут.
Былі ёсць і небыліцы
У стракатай маладзіцы:
Нібы заяц крылы мае,
Вожык на дудзе іграе,
Курка-раба ліску з'ела
І жыве у лесе смела.
Шмат бязглуздзіцы нясе
Сакатуха на хвасце.
Ад сарочынай лухты
Пасварыліся краты.
Воўк мядзведзя ледзь не з'еў –
Касалапы пасівеў...
А сарока ўсё стракоча,
Супакойвацца не хоча.
Кожны дзень трашчыць,
трашчыць...
Не дае спакойна жыць!

*г. Мінск.*




Нават «пятніца 13-га» не гучыць так, як «жнівень 31-га».

* * *

31-га жніўня – другі любімы дзень у прадаўцоў кветак пасля 7-га сакавіка.



* * *

Раней я любіў лета, але потым зразумеў, што лета можа быць у любы час года, калі ёсць грошы... Цяпер я люблю грошы.

* * *

– Дарагі, што мне ўзяць на мора, каб усе здзівіліся?
– Санкі.

* * *

31-га жніўня – дзень няздзейсненых планаў на лета.



* * *

– Як ты правёў лета?
– Хутчэй, гэта яно мяне правяло.

* * *

Выйшаў на вуліцу, задумаўся. Паблізу з неверагоднай хуткасцю нешта праляцела. «Лета», – здагадаўся я.

## ПРЫКМЕТЫ

Калі сябар у вашых вачах пачаў траіцца, варта спыніць застолле і развітацца. Тройчы.

**Калі прыгожая жанчына не звяртае на вас пры сустрэчы ўвагі, паглядзіце на сябе ў люстэрка. Магчыма, яна мае рацыю.**

Калі сусед зачасціў да вас у госці, уважліва прыгледзьцеся да жонкі.

**Калі ваш муж вяртаецца з палявання без здабычы, праверце, ці ёсць у чахле стрэльба.**

Калі ў прыватным медцэнтры ўрачы пачалі выяўляць адну хваробу за адной, задумайцеся: магчыма, яны даведаліся пра вашыя зберажэнні ў банку.

**Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць, г. п. Акцябрскі.*




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Аляксандра ШМІДТА.






«Певень прыведзеных курэй не таптаў, значыць, не апазнаў».

«Нецэнзурна захапляўся жанчынай».

«Правапарушэнне адбылося ў ходзе сваркі, якая ўзнікла на глебе непрыязных адносін з сужыцелем, які быў з ёю ў сямейных адносінах без рэгістрацыі шлюбу, якая адбылася ў адным з пакояў дома».

«Выкарыстаўшы пакінуты ў замку запальвання штатны ключ, ажыццявіў запуск рухавіка і здзейсніў паездку на ім».

*(З пратаколаў.)*

«Рэчка размешчана ў вёсцы каля дома № 2 па вуліцы Зарэчнай».

*(З даведкі.)*

«У нашым родзе палякаў няма, толькі бабуля і дзядуля былі палякамі».

*(З успамінаў.)*

«Выпускніца вышэйшай педагагічнай навучальнай установы шукае работу. Педагагічную працу не прапаноўваць».

*(З аб'явы.)*

«Па праблеме збору адыходаў мы актыўна працуем з жыхарамі населеных пунктаў, прымаем меры па выкарыстанні ўсіх іх у якасці другаснай сыравіны».

*(З даклада.)*

**Запісаў Міхась КАВАЛЁЎ,**
*г. Рагачоў.*

Вожык Часопіс сатыры і гумару




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.

**Верасень**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Аўт. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ср. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Чц. | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Пт. | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Сб. | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ндз. | 6 | 13 | 20 | 27 | |

# АРЫГІНАЛЫ

*Гумарысты і сатырыкі не толькі знаходзяць у жыцці шмат нечаканага і смешнага, ствараюць арыгінальныя творы, але і выдумляюць уласныя «жанры». Так, кароткія гумарыстычныя вершаванкі, з удалым дасціпам, часта каламбурнага плана Міхась Мірановіч назваў «Міранізмамі»; з-пад пяра Міхаіла Уласенкі сыплюцца вострыя ды задзірлівыя «Церушынкі»; Янусь Малец, не мудруючы, назваў кароткія сказы-фразы ўласным імем — «Януселькі-карацелькі»...*

*Вырашыў не адставаць ад масцітых вастрасловаў і член літаратурна-паэтычнага клуба «Вытокі» (пра гэтае аб'яднанне «Вожык» пісаў у мінулагоднім восьмым нумары) Антон Анісовіч ды назваў свае вершаваныя чатырохрадкоўі «Антосікамі». Што ж, пачытаем іх і — усміхнёмся, а можа, і задумаемся...*

**Антон АНІСОВІЧ**

## АНТОСІКІ

Міхась на сходзе сядзе ды маўчыць,
Бо многія таго заўжды хацелі.
Аднак хоць хто ды стукне па плячы:
— Цябе, браток, мы зноў не зразумелі!

* * *

Мараль жывёлам не ўласціва,
Наўрад ці хто тут знойдзе дзіва.
Аднак на правілы маралі —
Вось дзіва! — людзі наплявалі.

* * *

Прыгажосці жаночай сакрэты
Забаўляюць нас і інтрыгуюць:
Рвуць для нечага бровы пінцэтам,
А пасля іх алоўкам малююць.

* * *

Вядомы ўсім закон пра хуткасць гуку.
Ў жыцці ён мае многа агаворак:
Падлеткам штосць крычаць бацькі
на вуха,
Але «даходзіць» ім гадоў праз сорак.

* * *

І паміж словаў ёсць дыскрымінацыя.
Напрыклад, вось такая сітуацыя:
Жаночы род чамусьці ў слова «праца»,
А «водпуск»... Нескладана здагадацца.



* * *

Адна ёсць асаблівасць у жанчын,
На практыцы прайшла не раз праверку:
Калі глядзіш на даму пяць хвілін —
Яна дастане з сумачкі люстэрка.

* * *

«Што не пад сілу аднаму,
Лягчэй дваім, не гэтак цяжка», —
Сказаў я сябруку свайму,
Дастаючы з кішэні пляшку.



* * *

Калі з сабой пачнеш змагацца,
То вынік можа быць адмоўны.
Ты паспрабуй лепш дамаўляцца —
Без гвалту, ціха, паслядоўна.

*Дзяржынскі раён,*
*в. Путчына.*

**Рэгіна РЭЎТОВІЧ**

### Антонавы «антосікі»

*Антону АНІСОВІЧУ*

Наш Антон апошнім часам
Разважаць пачаў сам-насам:
Піша ён «антосікі» —
Беражыце носікі!

Ён жартуе трапна, востра —
Сцеражыцеся, прахвосты!
Бо пад словы моцныя
Пруць з яго эмоцыі.

*Дзяржынскі раён,*
*в. Станькава.*

---

Верасень — гэта такі месяц, калі не разумееш, хто большая дурніца: тая, якая яшчэ ў басаножках, ці тая, якая ўжо ў ботах...

* * *

Маладая маці перад 1 верасня:
— Уф-ф-ф, нібыта ўсё для школы купіла: буквар, сшыткі, ручкі, валяр'яну, рэмень...

* * *

Восень — гэта пастарэлае лета.



* * *

1 верасня. 1-ы клас.
Настаўніца:
— Дзеці, вы прыйшлі ў школу. Тут трэба сядзець ціха, а калі нешта хочаце спытаць — падымайце руку.
Адзін хлопчык цягне руку.
Настаўніца:
— Ты нешта хочаш спытаць?
— Не, я проста правяраю, як сістэма працуе!



* * *

Вясна ў гэтым годзе затрымалася і незаўважна перайшла ў восень.

# ШЧЫРЫЯ ВОЖЫКАЎЦЫ




*Якаў Бенцыянавіч ГЕРЦОВІЧ (1910 – 1976) спачатку праявіў сябе як крытык, аўтар шматлікіх літаратурна-крытычных артыкулаў. Пазней, калі прыйшоў працаваць у часопіс «Вожык», стаўся і гумарыстам, выдаў у яго бібліятэцы кнігу гумарыстычных і сатырычных твораў «Не пугай адзінай». Аддаў выданню 17 гадоў свайго жыцця.*

*Валянцін Андрэевіч ЗУБ (1915 – 1980) пісаў п'есы, якія ставіліся на сцэне многіх тэатраў, творы для дзяцей і заўсёды сябраваў з гумарам. Ледзь не тры дзясяткі гадоў адпрацаваў у часопісе «Вожык». У «Бібліятэцы «Вожыка» выйшлі яго кнігі аднаактовак і сцэнак «Нарада ў ЗАГСе», «Не спяшайцеся караць». Друкаваўся і пад псеўданімам Апанас Стрэмка. Выдаў кнігі гумару «Саперніکі» і «Чорны кот».*

*Сёлета на пачатку года адзначаюцца юбілейныя даты з дзён нараджэння гэтых таленавітых пісьменнікаў, шчырых вожыкаўцаў. Згадаем некаторыя іх творы, што не страцілі актуальнасці і сёння.*

## Якаў ГЕРЦОВІЧ




Белыя вароны маюць толькі тую перавагу, што ў агульнай масе варон яны самыя прыкметныя.

Дзіцячыя хваробы росту могуць зацягнуцца і да пенсійнага ўзросту. Калі гэта здараецца з літаратарам, ён да глыбокай старасці застаецца маладым талентам, які падае добрыя надзеі.



Аўтарытэт начальніка ўмацоўваецца не крыкам адзіным.

У дурнях часцей за ўсё застаецца той, хто намагаецца быць разумнейшым за ўсіх.

Нястомным шукальнікам нярэдка лічаць і таго, хто перабірае травінку за травінкай, каб знайсці ў капе сена згубленую ім жа іголку.

Нованароджанае дзіця і сталы гадамі юбіляр аднолькава бязгрэшныя: у першага яшчэ няма грахоў, а другому пад юбілейную шуміху іх начыста спісваюць.



Дарога на Парнас забіта машынамі ўсіх марак, што прыводзіць да мноства аварый. Дабірацца на славутую гару лепш за ўсё па-старому — на Пегасе, або пешшу, калі Пегас перагружаны.

Калі дзеляць шкуру незабітага мядзведзя, можна быць і бескарыслівым, не патрабуючы, каб львіную долю аддалі менавіта табе.



«Вожык», № 1, 1969 г.

Працяг на с. 20.



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.



Вожык Часопіс сатыры і гумару

**Кастрычнік**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Аўт. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ср. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Чц. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Пт. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Сб. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ндз. | 4 | 11 | 18 | 25 | |

# Пасля абеду

**Валянцін ЗУБ**



Мы паабедалі. Уражанне ад абеду ў нас засталося вельмі добрае...

– Давай запішам падзяку дырэктару, повару, афіцыянтцы... – прапанаваў я.

– Давай! – ахвотна згадзіўся мой сябра. – Толькі ж ці ёсць у іх такая кніга для падзяк?

– Спецыяльнай кнігі для падзяк, вядома, няма, – растлумачыў я, – кніга скаргаў усё прымае: і падзякі, і скаргі.

...Калі да нас падышла афіцыянтка – прыгожанькая дзяўчынка з маленькімі чорнымі вочкамі, я асцярожна, лагодным тонам папрасіў:

– Дайце нам, калі ласка, кнігу скаргаў.

Вочы афіцыянткі спалохана забегалі, шчокі пачырванелі.

– Хіба вам што не спадабалася ў нас?

– Не, усё добра, – як мага больш мякка адказаў я, – але вы ўсё ж прынясіце.

– Вось людзі! – злосна прамармытала афіцыянтка, – сказаць проста яны не могуць, абавязкова падавай ім кнігу скаргаў. Самадуры.

...Афіцыянтка між тым падышла да буфетчыцы, нешта горача гаварыла і паказвала ў наш бок.

Праз колькі хвілін, нібы пава, выплыла з-за стойкі буфетчыца і накіравалася да нас.

– Кнігі скаргаў зараз няма. Яна ў дырэктара ў кабінеце. Дырэктара таксама няма і невядома, калі ён прыйдзе. Калі хочаце, можаце сабе чакаць, – адным духам выпаліла яна і, глянуўшы на нас знішчальным позіркам, быццам хацела з'есці, адплыла да буфета.

...Лагодны настрой, які быў да гэтага, пачаў знікаць. Цяпер усё ўяўлялася нам зусім у іншым святле...

...Я ўстаў і накіраваўся сам да дырэктара. Ісці мне трэба было каля ўсё той жа буфетчыцы. Яна, відаць, адгадала мой намер і ўмомант загарадзіла сабою дзверы.

– Вы куды?

– Ды дырэктара.

– Без халата тут хадзіць забараняецца.

– Тады дайце мне халат, – папрасіў я.

– У нас не халатная майстэрня.

– Тады паклічце мне сюды дырэктара.

– Служак у нас таксама няма.

Я ўспыхнуў і павысіў голас. Буфетчыца ў даўгу не засталася. Узняўся шум. Не ведаю, чым бы ўсё гэта скончылася, каб з кабінета не выйшаў дырэктар і не прынёс кнігу скаргаў.

Кончылася ўся гэтая справа тым, што мы, замест падзякі, напісалі досыць рэзкую скаргу.

Хто яго ведае, можа сапраўды трэба было, каб у рэстаранах, сталовых, магазінах і іншых падобных месцах было па дзве кнігі: кніга скаргаў і кніга падзяк.




*(Друкуецца са скарачэннямі.)*

*«Вожык», № 9, 1956 г.*

Заканчэнне. Пачатак на с. 19.

---

– Люблю дажджы.
– Ты меланхолік?
– Не, я прадавец парасонаў.

* * *

Увялі новае свята – Дзень вадзіцеля. ДАІ папярэджвае: хто адзначыць яго за рулём, у наступным годзе будзе адзначаць Дзень пешахода!

* * *

Увосень перашкаджае працаваць дэпрэсія...
Узімку мерзнеш...
Вясной пачынаеш квітнець...
А ўлетку хочацца на мора...
Працаваць няма калі!

* * *

Прыйшла восень.
Песіміст: «Хутка зіма...»
Аптыміст: «Хутка вясна!»

* * *

Тэлеінтэрв'ю з доўгажыхаром:
– Як вам удалося так добра захавацца ў вашыя 167 гадоў?
– Калі была Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя...
– Ведаеце, раскажыце лепш пра дзекабрыстаў.
– Калі была Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя...
– Не, раскажыце лепш пра Пушкіна!
– Калі была Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя, быў такі беспарадак, што мне прыпісалі лішніх сто гадоў!





# ЛЮБІЎ ЖЫЦЦЁ

**Уладзімір Фаміч ЕРМАЛАЕЎ** часта зазіраў у рэдакцыю «Вожыка»: балазе, жыў непадалёк. І заўсёды не з пустымі рукамі: то прынясе новыя пародыі ці вершы (і абавязкова пачытае, каб убачыць рэдактарскую рэакцыю), то пачастуе яблыкамі з уласнай дачы, то раскажа вясёлую гісторыю.

Вось і нядаўна пакінуў свежыя творы, пажартаваў, падпісаўся на «Вожык»... І хто ж ведаў, што праз некалькі дзён ён пакіне гэты свет, што ў нядзелю 14 снежня сябры-літаратары збяруцца, каб развітацца з ім назаўсёды?

Уладзімір Фаміч нарадзіўся 2 студзеня 1933 года ў вёсцы Галавачы Дрыбінскага раёна. Бацька загінуў на фронце падчас Вялікай Айчыннай вайны, маці засталася з сынам і дачушкай. Давялося шмат паспытаць горкага бязбацькавіцкага хлеба...

Пазней скончыў Мсціслаўскае педвучылішча, гісторыка-філалагічны факультэт Мінскага педінстытута імя М. Горкага. Працаваў на педагагічнай, камсамольскай ніве, у Міністэрстве вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Быў старшынёй секцыі лектараў-міжнароднікаў таварыства «Веды».



Аб'ездзіў з лекцыямі ўсю Беларусь. З 1975 года выкладаў у Мінскім педінстытуце замежных моў, потым у Беларускім політэхнічным інстытуце (цяпер БНТУ). Кандыдат гістарычных навук, дацэнт.

Студэнтам пачаў друкавацца ў мсціслаўскай раённай газеце. Напачатку 90-х гадоў Уладзімір Фаміч вярнуўся да актыўнай літаратурнай працы. Выступаў у друку з гумарыстычнымі і сатырычнымі вершамі, пісаў пародыі на многіх сучасных паэтаў. У 1998 годзе быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

Першая кніга сатыры і гумару «Хто не смяецца, той не есць» выйшла ў 1994 годзе ў серыі «Бібліятэка «Вожыка». Затым былі зборнікі «Пераход колькасці ў колкасці», «Радком па кумпалу», «Дулі будуць апасля», «Смехам закаханыя». Падрыхтаваў да друку кнігу выбраных твораў, якая павінна была пабачыць свет у наступным годзе ў серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі». Ягоныя творы заўсёды вылучаліся тонкім гумарам, сацыяльнай завостранасцю, сур'ёзнай удумлівасцю ў рэаліі нашага жыцця.

Уладзімір Фаміч любіў жыццё, і жыццё любіла яго. Ён быў таварыскім, гасцінным, дасціпным, вясёлым чалавекам, меў шмат знаёмых і таварышаў. Любіў выступаць, цудоўна трымаўся на публіцы... На жаль, сёння даводзіцца пісаць пра гэта ў мінулым часе. Але светлая памяць пра вядомага паэта-гумарыста і сатырыка, таленавітага творцу застанецца з намі, вожыкаўцамі, сябрамі-літаратарамі, будзе жыць у нашых сэрцах.

Вожык
Часопіс сатыры і гумару



Малюнак Пятра КОЗІЧА.

## Лістапад

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Аўт. | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Ср. | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Чц. | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Пт. | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Сб. | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Ндз. 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |




# Са старым Новым годам!










Малюнкі Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

– Зноў восень, зноў я хачу ў Парыж...
– А што, вы ўжо былі восенню ў Парыжы?
– Не, але я ўжо хацела...

* * *

Май тэлефануе Лістападу:
– Слухай, дружа, я ў адпачынак сабраўся. Падменіш мяне?
– Вядома, ты ж мяне падмяняў!..

* * *

У народзе здаўна існаваў звычай: калі хлопец сватаўся да дзяўчыны і яна адмаўляла яму, то ўручала гарбуз...
Таму прыгожыя хлопцы да восені атрымлівалі сабе ў жонкі каханую, а разумныя – некалькі тон выдатнай гародніны.

* * *

Вясна спазнілася... Лета спазнілася... А восень – пунктуальная, сволач!

* * *

Восень – гэта такі час года, калі заходзіш у ванную не толькі для таго, каб памыцца, а яшчэ каб і пагрэцца.




Сабраўся мужык у лес па дровы. Паснедаў гарачай кіслай капустай з лустай аржаного хлеба. Апрануў кажушок, падперазаўся, заткнуў сякеру за пояс. Не забыўся валёнкі абуць ды рукавіцы з аўчыны надзець. Запрог кабылку, укуліўся ў сані і паехаў.

Люты на дварэ, ды мароз лютуе. Шчыпае за вушы, нос, ужо пад кажушок пралезці намерваецца.

– Прабярэ да касцей, трасца яго, – думае мужык.

Рукавіцамі ляпае, кабылку паганяе, каб бегла хутчэй, а ў яе з ноздраў ажно пара валіць.

Нарэшце даехаў да хмызняку, дзе меркаваў алешніку і асінніку насячы. Мяркуй не мяркуй, бярозавыя дровы лепшыя. Але яны ў панскім лесе, туды мужыку сунуцца няма дазволу.

– Тыр-р, тыр-р, – скамандаваў кабылцы.

Бадзёра саскочыў з саней, прывязаў яе лейцамі да дрэва, крыху сена падкінуў.

– Еш, нябога, грэйся.

Сам хуценька схапіў сякеру і давай дрэвы ссякаць, аж трэск рэхам разносіцца ў марозным паветры ды шчэпкі ляцяць.

Гак ды гак. Сякерай махае, мароз адганяе, снег вакол прытоптвае. Горача мужыку зрабілася, скінуў ён




кажушок і далей працуе шчыра. Сучкі абсякае, дрывамі сані напаўняе.

Якраз у гэты час пан ехаў з мястэчка ў свой маёнтак. Не ў санях, канешне, а ў крытым вазку, і фурман наперадзе. Апрануты быў не ў кажушок, а ў футра на ваце. Абуты не ў валёнкі, а ў модныя скураныя чаравікі. І хоць ногі былі накрытыя мядзведжай шкурай, але мароз да іх дабраўся.

Убачыў пан мужыка распранутага. Здзівіўся, загадаў фурману пад'ехаць бліжэй. З наседжанага месца ў вазку не стаў вылазіць, дый не прыстала пану да мужыка падыходзіць. Падазваў яго да сябе:

– Скажы, мужык, як ты на такім марозе вытрымліваеш? Расчырванеўся, бач.

Паглядзеў мужык на пана, а той – аніякі: бледны, кругі пад вачыма.

– Дзе ты, паночку, быў усю ночку? – пытае мужык.

– Што табе да гэтага, гіцаль? Баляваў, канешне, – адказвае пан.

– А чым снедаў, паночку? – зноў пытаецца мужык.

– Вядома ж, кавай ды гарбатай, – раздражнёна кінуў пан.

– Адзенне ў цябе, васпане, танкаватае, не грэе...

– Як?! – абурыўся пан. – Ды яно з каштоўнага замежнага сукна і, дарэчы, на ваце!

– Дык вось, паночку, чаму мяне мароз не пужае: па-першае, я не балюю, а працую, па-другое, капуста – не гарбата, а кажух – не вата, і ў валёнках не мерзнуць галёнкі.

Раззлаваўся пан на такі адказ мужыка, але кінуў на снег злоты як адзнаку панскай міласці ды хутчэй паехаў у маёнтак.

**Запіс і літаратурная апрацоўка**
**Людмілы АРДЫНСКАЙ,**
*Шаркоўшчынскі раён,*
*в. Радзюкі.*

Вожык
часопіс сатыры і гумару


Малюнак Андрэя СКРЫННІКА.

**Снежань**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Аўт. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ср. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Чц. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Пт. | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Сб. | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ндз. | 6 | 13 | 20 | 27 | |




## Анекдоты ад Валянціны Віктараўны КЛІМОВІЧ,

*дырэктара Дзяржынскай цэнтральнай раённай бібліятэкі*

Новы год, святочны стол. Раптам на падлогу падае відэлец. Бацька, перакульваючы стол, ловіць яго ў сантыметры ад падлогі.

— Фух! Дзякуй богу, больш ніякіх гасцей не будзе.

У пакой забягае дачка і крычыць:

— Тата, тата! Дзядзька Толік ў ліфце засеў!

☺ ☺ ☺

— А вы мой ліст хіба не атрымалі?

— Ды хто ж твой почырк разбярэ?! Мы насілі яго ў аптэку расшыфроўваць — нам феназепам выпісалі!

☺ ☺ ☺

Хворы песіміст пытаецца, колькі яму засталося жыць, у зязюлі.

А хворы аптыміст — у дзятла.

## Анекдоты ад Таццяны Уладзіміраўны МАТКОЎСКАЙ,

*загадчыцы сталічнай бібліятэкі № 1 імя Л. М. Талстога*

Мужчына заходзіць у кніжную краму:

— Мне якую-небудзь захапляльную кнігу, ад якой нельга было б адарвацца.

— Ёсць цудоўны дэтэктыў, чытаецца на адным дыханні. Там адбываецца цэлая серыя злачынстваў, і ніхто не можа здагадацца, хто забойца.

— Выдатна, гэта тое, што мне патрэбна. А як называецца гэтая кніга?

— Зараз паглядзім... «Вартаўнік-забойца» яна называецца.



Калі гепарда, які спіць, штурхнуць у бок, ён зможа развіць вашую хуткасць да ста каламетраў у гадзіну.



Да банкамата падыходзіць жанчына з хлопчыкам:

— Пачакай, сынок, зараз я грошыкі здыму.

Яна ўстаўляе картку, набірае пін-код, забірае купюры.

Сын ціхенька пытаецца:

— Мам, а там што, татка ўнутры сядзіць?


**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**

**«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс**

№ 1 (1516), 2015 год.

*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
*Часопіс «Вожык» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэгістрацыйны № 520.*

Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

**Галоўны рэдактар**
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

**Рэдакцыйная калегія:** Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ПРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.

**Рэдакцыя:** Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Ганна КІСЛІЦЫНА, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры)*.

*Рэдактар стылістычны* Марыя ПЛЕВІЧ.
*Камп'ютарная вёрстка* Святлана ТАРГОНСКАЯ.

**Юрыдычны адрас:**
**220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.**

**Адрас рэдакцыі: 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39. E-mail: a-vojik@yandex.ru**

***Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.***

Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Перадрукоўваючы матэрыял, трэба абавязкова спасылацца на «Вожык». Разглядаюцца рукапісы, надрукаваныя на машынцы або набраныя на камп'ютары. Аўтары публікацый нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пазіцыю і думку аўтараў.

Падпісана да друку 09.01.2015. Фармат 60х84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79. Ул.-выд. арк. 3,29 . Тыраж 1505 экз. Заказ .

Кошт нумара ў розніцу 16 800 руб.

Надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «СтройМедиаПроект». 220123, Мінск, вул. В. Харужай, 13/61. ЛП №02330/71 ад 23.01.2014.




— Трымай цукерку.
— Дзякуй, але ж у яе тэрмін прыдатнасці да снежня!
— А цяпер што?
— Верасень.
— Прыкінь! Цукерка з будучыні!..

* * *

— Жаніцца лепш за ўсё 31-га снежня.
— Чаму?
— Па-першае, лягчэй запомніць дзень вяселля, па-другое, эканомія на падарунках, а па-трэцяе, фармальна на адзін год больш жанаты.

* * *

— Дзе знаходзяцца мухі ўзімку?
— Не ведаю, але я хацеў бы, каб яны заставаліся там і летам.

* * *

За вячэрай дачка абвясціла, што напісала ліст Дзеду Марозу. Сабе папрасіла планшэт, а маці — норкавае футра.

Дзед Мароз папярхнуўся гарбатай...

* * *

— Вось я зімой нарадзіўся. Цяпер расплумачце, адкуль я ўзяўся? Буслы не лётаюць, капуста не расце...
— Снегавікі зляпілі.

Працяг. Пачатак на 2-й вокладцы.

У рэчаў рэінкарнацыя завецца рэцыклінгам…

Для пластыку

Для паперы

Для шкла

Іх для таго людзі і збіраюць, каб выкарыстаць зноў!

Ты хочаш сказаць, што ў нас будзе другое жыццё?

І мы ўжо не станем смеццем?

Паводле заканадаўства, мы станем не смеццем, а ДМР — другаснымі матэрыяльнымі рэсурсамі.

У краіне ёсць дзе перапрацоўваць паперу, пластык, шкло.

Пачакайце! Значыць, вы яшчэ спатрэбіцеся, а я так і застануся адна сярод смецця?

Не застанешся. Батарэйкі таксама асобна збіраюць.

Цяжкія металы пасля разбурэння корпуса батарэек здольны назапашвацца ў раслінах і жывёлах.

Бо вы вельмі шкодныя!

Людзі!

Ад вашай свядомасці залежыць, ці атрымаем мы другое жыццё, ці сапсуем вашае!

Усё!

# Пусці паэта ў агарод...

*Калі ласка, упішыце словы ў радках, кіруючыся па ўказаных стрэлках то справа налева, то злева направа.*

**1.** Псеўданім вядомага беларускага байкапісца, рэдактара «Вожыка». **2.** Грыб, сабрат падбярозавіка і бабкі. **3.** Жарт, заснаваны на гульні слоў. **4.** З гэтай косці Адам атрымаў сабе жонку. **5.** Горад, у якім нарадзіліся пісьменнікі, што заўсёды сябравалі з гумарам, – Уладзімір Караткевіч, Павел Саковіч, а паблізу яго – Уладзімір Корбан і Янка Сіпакоў. **6.** Месца рэгістрацыі старажытна-грэчаскіх багоў. **7.** Літаратурнае пацвельванне. **8.** Кажуць, што ён давядзе і да Кіева. **9.** Жывёла, якой часта даручаюць у байках вартаваць капусту. **10.** Армянскі хлеб. **11.** Яго ствараюць геніяльныя людзі. **12.** Камедыя вядомага рускага пісьменніка Мікалая Гогаля. Лічыцца, што сюжэт п'есы быў падказаны яму Аляксандрам Пушкіным. **13.** Паводле народнай мудрасці, яна не смачнейшая за хрэн. **14.** Яе яшчэ называюць так: ашуканства, падман, фікцыя і іншае.



**«Вожыкаўскі плакат»**

# Беражыце лес!



Малюнак Алега ГУЦОЛА.

## З наступнага нумара вы даведаецеся:

Куды Сом паслаў Ляшча?

Хто разумнейшы: жанчыны ці мужчыны?

Што такое пляшпарт?

Насуперак чаму выздараўліваюць пацыенты?

Чаму дзеда Нупрэя не ўзялі ў армію?

Што трэба мець для міні-спадніцы?

Якой жонцы няма цаны?

Чаму небяспечна чыхаць у шафе?

Што даюць за рыжага ў Парыжы?

***І многае-многае іншае! Да сустрэчы!***

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844**,

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**



*Не шкадавай на «Вожык» грошай — І атрымай настрой харошы!*

**ПАДПІСКА НА I ПАЎГОДДЗЕ 2015 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**

індэкс 74844, цана 29100 рублёў,
індэкс 01380, цана 23200 рублёў
індэкс 748442, цана 79000 рублёў,
індэкс 01381, цана 62300 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

